# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 28 (1783) ГОД XXXV БЕЛАСТОК, 15 ЛІПЕНЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл.




*У спякотны дзень над Нараўкай.* *Фота Я. Чэрнякевіч*

# У СКАРЫНІНСКУЮ ГАДАВІНУ

Арганізацыя Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры ЮНЭСКА аб'явіла 1990 год годам Францішка Скарыны. Прагрэсіўнае чалавецтва адзначае пяцісотую гадавіну з дня нараджэння беларускага першадрукара, вучонага, асветніка і культурнага дзеяча, перакладчыка і пісьменніка эпохі Адраджэння.

У сувязі з тым, што год нараджэння Ф. Скарыны аспрэчваецца, Скарынінскія ўрачыстасці праводзіліся ўжо ў 1985 годзе ў Лондане, у 1986 — у Мінску і ў 1989 — у Кракаве. У 1990 годзе адбудуцца Скарынінскія ўрачыстасці ў Мінску (верасень), у Маскве, Віцебску, у Віленскім універсітэце (лістапад). Заканчэнне Скарынінскіх дзён адбудзецца ў канцы года ў ЗША.

Скарынінскія юбілейныя ўрачыстасці ў гэтым годзе запачаткавала Міжнародная навуковая канферэнцыя, арганізаваная Камітэтам славяназнаўства Польскай акадэміі навук, Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, Філіялам Варшаўскага універсітэта ў Беластоку і Беларускім грамадска-культурным таварыствам у Польшчы.

Канферэнцыя праводзілася 18—19 чэрвеня ў Палацы культуры і навукі ў Варшаве, а яе заканчэнне адбылося 20 чэрвеня на Беласточчыне. У Канферэнцыі прынялі ўдзел вядомыя навукоўцы-славісты з СССР, ГДР, Балгарыі, ЗША і з розных гарадоў Польшчы.

Першы дзень старшынстваваў на Канферэнцыі акадэмік АН БССР, сакратар Аддзялення грамадскіх навук Мікола Бірыла, які ў 1956—58 гадах працаваў выкладчыкам беларускай мовы на Кафедры беларускай філалогіі ВУ, і дацэнт Міхась Кандрацюк, навуковы сакратар Камітэта славяназнаўства ПАН.

На Канферэнцыі было прачытана дваццаць змястоўных дакладаў аб жыццёвым шляху, выдавецкай і літаратурна-асветніцкай дзейнасці Скарыны, а таксама аб значэнні для нас беларускага першадрукара.

З недахопу месца не можам тут падаць кароткага зместу дакладаў, абмяжуемся толькі да пераліку аўтараў і загалоўкаў.

1. Член-кар. АН БССР **Алег Лойка,** загадчык Кафедры беларускай літаратуры Мінскага Дзяржаўнага універсітэта, *„Францішак Скарына і беларускае Адраджэнне"*.

2. Член-кар. АН БССР **Аркадзь Жураўскі,** загадчык Аддзела гісторыі беларускай мовы, *„Вывучэнне мовы выданняў Ф. Скарыны."*

3. Д-р філ. навук **Вячаслаў Чамярыцкі,** старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Коласа АН БССР, *„Беларуская літаратура эпохі Скарыны: традыцыі і наватарства"*.

4. Д-р **Аляксандр Баршчэўскі,** загадчык Кафедры беларускай філалогіі ВУ, *„Рэнесансавыя ідэі ў жыцці і дзейнасці Ф. Скарыны"*.

5. Праф. **Леў Шакун,** загадчык Кафедры беларускай мовы Беларускага Дзяржаўнага уні-

**(Працяг на стар. 6)**

# Цэрквы ў небяспецы

Нешчаслівыя здарэнні не абмінаюць праваслаўных сакральных аб'ектаў. У гэтым годзе інфармавалі мы сваіх чытачоў аб прафанацыі праваслаўных могілак у Варшаве і пажары царквы ў Нарве. У красавіку невядомыя дагэтуль злачынцы абакралі **царкву ў Крыначцы каля Гайнаўкі.** А ў чэрвені пацярпелі ад зладзеяў чарговыя храмы.

У нядзелю 18 чэрвеня 1990 года зладзеі абрабавалі могільнікавую (цяпер адзіную ў горадзе) **царкву ў Сувалках.** Тут 15 праваслаўных сем'яў. Для іх раз у месяц адпраўляе набажэнствы айцец Мікалай Каліна з Беластока.

Царкоўку, з зачыненымі на замкі дзвярыма, няма каму пільнаваць. Побач з могільнікам жыве бабка, якая раніцай у панядзелак заўважыла пазрываныя замкі. Паліцыя запламбавала царкву, забіваючы дзверы цвікамі, і паведаміла настаяцеля.

Зладзеі забралі з прастола ў алтары два старыя Евангеллі, дарахраніцельніцу, адну ікону, якая ляжала на аналоі, старынную харугву з іконай і два пасярэбраныя падсвечнікі. Ураталіся чаша, лжыца і крыж, якія не знаходзіліся тады ў царкве — бацюшка пасля наведвання хворай прыхажанкі ў бальніцы спяшаўся на аўтобус і гэтыя скарбы пакінуў у яе.

Паліцыя спісала пратакол, „забяспечыла сляды". На дзвярах царквы павесілі новыя замкі.

**(лук)**

Раніцай, у панядзелак, 25 чэрвеня г.г., адзін з вернікаў паведаміў прыхадскую канцылярыю аб уламанні ў **царкву св. Марыі Магдаліны ў Беластоку.** Праходзячы каля царквы, заўважыў ён зламаныя замкі на браме, уваходных дзвярах і выбранае акно. Як паінфармаваў нас айцец Рыгор Місеюк, зладзеям не ўдалося ўварвацца ў сярэдзіну святыні. Ва ўваходных дзвярах натрапілі яны на ўнутраны адмысловы замок, які адкрыць было ім не пад сілу. Тады вырашылі ўвайсці праз акно, але там на перашкодзе былі краты. Прабавалі разагнуць іх пры дапамозе дамкрата, але той папсаваўся і так астаўся між кратамі.

Гэта ўжо шостае ўламанне да гэтай царкоўкі. Следства вядзе І камісарыят беластоцкай паліцыі.

**(л)**

## НА мяжы

— 8 —

Пасля вайны, калі я пачаў крыху разбірацца ў палітыцы, здавалася мне, што было б добра, калі б на тэрыторыі Германіі ўзніклі чатыры нямецкія дзяржавы. Адна залежная ад СССР, другая — ад ЗША, трэцяя — ад Англіі і чацвертая — ад Францыі. Думаў я, што Еўропа так доўга будзе спакойна спаць, пакуль немцы будуць падзелены. Па сутнасці такое мысленне засталося ў мяне да сёння. На працягу дзесяткаў гадоў здавалася мне, што немцы павінны плаціць за гітлераўскія грахі Еўропе і свету.

Сёння аднак варта глянуць на праблему крыху па-другому. На нямецкай пасляваеннай зямлі нарадзілася ўжо некалькі пакаленняў. А кожны дэмакратычны закон свету гаворыць аб тым, што за віну бацькоў не адпавядаюць дзеці, а за віны дарослых дзяцей не адпавядаюць бацькі. І вось, калі з гэтага пункту гледжання ацэнім сітуацыю ў Германіі, дык дойдзем да вываду, што пасляваенныя нямецкія пакаленні ні ў якім выпадку не могуць дыскрымінавацца, праследвацца або тым болей карацца за віны і грахі сваіх бацькоў і дзядоў. І з гэтай прычыны права немцаў на аб'яднанне ў адной дзяржаве трэба лічыць бясспрэчным, уматываваным і лагічным. Працэсу гэтаму ніхто не ў праве падстаўляць нагу. Зрэшты, сярод еўрапейскіх нацый не бачу народа, які змог бы гэта зрабіць нават тады, калі б моцна гэтага прагнуў. Нават СССР, які дагэтуль быў першай мілітарнай магутнасцю ў Еўропе, а можа нават у свеце, вельмі моцна аслаблены, а, праўдападобна, у будучым будзе яшчэ слабейшы. Зусім магчыма, што СССР распадзецца, і тады раптам акажацца, што аб'яднаная Германія з магутнай прамысловасцю і вялікай арміяй станецца найбольш грознай еўрапейскай сілай. Да гэтага даходзіць як жа нечаканы элемент. Можа аказацца, што Германія стане краінай, аддаленай ад Расіі на 1200 кіламетраў, і што будуць яе аддзяляць ад Расіі такія дзяржавы, як Польшча, Беларусь, Украіна, Літва, Латвія, Эстонія. А што з гэтага вынікае? А тое, што як бы зніккнуць натуральныя прычыны канфлікту, а тым самым і небяспекі вайны паміж Расіяй і Германіяй. Ці ў такой сітуацыі не ўзрасце натуральнае нямецка-рускае ўзаемнае зацікаўленне, ці не народзіцца ідэя дружбы і супрацоўніцтва? Тым болей, што Расія мае ўсе тыя сыравіны, якія будуць цікавіць Германію, а Германія ўсе высакаякасныя тавары, якімі будзе зацікаўлена Расія. Ці гэта не можа давесці да руска-нямецкай супольнасці інтарэсаў, якія не заўсёды будуць карысныя для тых народаў, што жывуць паміж Германіяй і Расіяй? А можа і не толькі тых, але і ўсіх еўрапейскіх нацый? Усё магчыма. Свет агортвае рыначная сістэма, якая дазваляе быць хітрым і эгаістычным. Аб палітыцы няма нават што гаварыць. Яна заўсёды была хітрая і прадажная.

# АБ'ЯДНАНАЯ ГЕРМАНІЯ

І вось тут можа наступіць вялікая нечаканасць. Тыя заходнееўрапейскія палітыкі, якія лічаць, што аб'яднанне Германіі — гэта ўдар па Расіі, могуць аказацца ў дурнях, бо аб'яднаная Германія можа стаць галоўнай пагрозай не для Расіі, а для іх краін.

У фільме, прысвечаным генералу Патону, які дэманстраваўся нядаўна ў польскім тэлебачанні, амерыканскі палкаводзец у першыя дні пасля разгрому гітлераўскай Германіі выказвае такія словы: „Кожная эпоха мае сваіх тыранаў". Словы гэтыя кіруе ён да будучай Еўропы і свету. І тут несумненна Патон мае рацыю. Гісторыя напэўна пацвердзіць іх слушнасць яшчэ сотні і тысячы разоў. Зрэшты, пацвярджае ўжо і сёння, калі не ў Еўропе, дык у іншых частках свету. Як у асуджанага чалавека, так і ў дзяржаў, вялікая сіла родзіць смеласць, адвагу, нагласць, агрэсію. А прыклады? Гэта ж В'етнам, Афганістан, Гранада, Панама, Фальклانды. Калі не паразумнелі іншыя магутныя народы, дык чаму ж мела б паразумнець вялікая аб'яднаная Германія?

А каму ж не вядома, што дзяржавы, замешаныя ў ваенныя агрэсіі, пасля дэкларуюць безупынна сваю вернасць прынцыпам ААН і ідэалам міру, роўнасці і свабоды. Дык чаму б не выступіць з такімі прыгожымі дэкларацыямі і немцам? Выступяць!

**Алесь Барскі**

## З мінулага тыдня

**XXVIII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза** пачаў 2 ліпеня сваю працу ў крамлёўскім палацы з'ездаў. Удзельнічае ў ім 4657 дэлегатаў ад 17-мільённай арганізацыі савецкіх камуністаў.

**Узноўлена пастаўка савецкай нафты** для нафтаперапрацоўчага завода ў г. Мажэйкяй. Гэтае рашэнне з'яўляецца вынікам адтэрміноўкі літоўскім парламентам дэкларацыі незалежнасці Літвы на 100 дзён.

**Сціск на польска-савецкай граніцы.** На гранічным пункце ў Тэрэспалі таможнікі кантралююць кожныя суткі каля 2 тысяч легкавых машын і 100 аўтобусаў. Па абодвух баках граніцы стаяць у кіламетровых чэргах тысячы аўтамашын, якім даводзіцца чакаць больш за суткі, каб перасячы граніцу. Такая ж сітуацыя і на іншых гранічных пунктах.

**Саюз казакаў** стварыўся ў Маскве. На заснавальніцкі з'езд прыехала 250 дэлегатаў, прадстаўнікоў казацтва з-над Дона, Кубані, Церака, з Урала, Сібіры, Забайкалля і Усурыйска. З'езд прыняў праграму і статут, а атаманам быў выбраны Аляксандр Мартынаў са станіцы Гнілаўская ў Растоўскай вобласці.

**Албанцы ўцякаюць на Захад.** На тэрыторыю дыпламатычных прадстаўніцтваў заходніх краін у **Тыране** прабраліся сотні грамадзян гэтай краіны. У час хвалявання ў сталіцы Албаніі, пачаткам якіх былі антыўрадавыя дэманстрацыі, шмат людзей было паранена.

**У 44 гадавіну яўрэйскага пагрому ў Кельцах** адбылася ўрачыстасць адкрыцця мемарыяльнай дошкі. У гэтым горадзе ў 1946 г. былі забіты 42 асобы, у тым ліку жанчыны і дзеці. Дошка, якая ўвекавечвае антыяўрэйскую правакацыю, была замацавана на сцяне будынка, у якім знаходзіліся ваяводскі і гарадскі камітэт яўрэяў у Кельцах, кібуц і рэлігійная кангрэгацыя.

**Беларускія дзеці,** якія пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі, прыехалі адпачываць на Беласточчыну. Арганізатарамі летняга адпачынку з'яўляюцца Праваслаўная Царква і Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне.

**Сельскагаспадарчы кааператыў у Бельшчыне,** якім кіруе Канстанцін Майсеня, заключыў дагавор аб супрацоўніцтве з калгасам „Маяк камунізма" з Кажан-Гарадка Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці. У дагаворы прадбачана дапамога Беларускаму музею ў Гайнаўцы.

**Беларускія калектывы гасцююць на Беласточчыне.** Па запрашэнні Гайнаўскага дома культуры прыехаў **Камерны хор з Гродна.** У рэпертуары хора (лаўрэата VII агульнапольскіх дзён царкоўнай музыкі) — народныя і царкоўныя песні. Бельскі дом культуры запрасіў на гастролі калектыў песні і танца **„Вітанне" з Паставаў** Віцебскай вобласці.

**Купалле** (па старому стылю з 6/7 ліпеня) урачыста адзначалася ў Белавежы. У купальскіх гульнях прымалі ўдзел беларускія калектывы з Беласточчыны і БССР, культурныя і грамадскія дзеячы беларускага руху.

**Выбух газу** ў падвале будынка, у якім знаходзіцца рэдакцыя „Кур'ера Падляшскага" ў Беластоку, датла знішчыў памяшканне рэдакцыі. Выпадак здарыўся апоўначы з серады на чацвер (4/5 ліпеня) і гэта прадухіліла трагедыю. У выніку катастрофы быў смяртэльна паранены адзін чалавек.

# ПАВЕДАМЛЕННЕ

### ВАРШАЎСКАГА АДДЗЕЛА БГКТ

У пасляваенны перыяд трагічна склаўся лёс вёсак Залешаны, Шпакі, Вулька-Выганоўская, Зані, Ягаднікі, Пасечнікі-Вялікія, Збуч, Чыжы, Лазіцы, Беразова, Дубічы, Арэшкава і іншых. Жыхары тых вёсак былі забітыя бандай „Бурага" (Рамуальда Райса), які ў 1945—1948 гадах кіраваў атрадам, падначаленым Акруговаму камандаванню АК на Беластоцкую акругу, г.зв. „Поготовем акцыі спецыяльнэй" (ПАС). Атрад гэты мае на сваім сумленні забойства больш 500 беларусаў, простых жыхароў вёсак, якія не былі членамі партыі ці іншых палітычных арганізацый. Сярод загінуўшых былі дзеці, цяжарныя жанчыны, старыя і хворыя людзі. Такія злачынствы нельга інакш назваць, як генацыд, і яны не павінны быць填 填 пэратэрмінаваныя.

У злачынствах прымалі ўдзел члены атрада АК-ПАС, якім кіраваў Р. Райс — „Буры", між іншым, Казімеж Хмялёўскі — „Рэкін", Люцыян Мінкевіч — „Віктар", Ян Табаркоўскі — „Бруздa", Уладзіслаў Лукасік — „Млот", Казімеж Каменскі — „Гузар", а таксама 350 іншых, якія не былі пакараны. Члены гэтага атрада АК забіралі ў насельніцтва вопратку, грошы, каштоўныя прадметы, палілі будынкі разам з маёмасцю. У студзені 1946 г. з вёскі Лазіцы былі забраны 49 вазакоў і 98 коней з вупражжу. Вазакі не вярнуліся, былі расстраляны ў Старых Пухалах каля Браньска. Людзі, якім тады былі нанесены страты, не атрымалі ніякай кампенсацыі. Не атрымалі яе і сем'і загінуўшых.

У сувязі з гэтым у Варшаве стварыўся калектыў, які хоча сабраць усе інфармацыі аб пасляваенных трагічных падзеях і панесеных стратах. Калектыў лічыць важным устанавіць дакладныя даты ўсіх здарэнняў і, калі гэта магчыма, імёны і прозвішчы сведкаў. Інфармацыі просім кіраваць на адрас: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne w Warszawie, Warszawa, Poczta Główna, skr. poczt. 244.

Ад імя Варшаўскага праўлення БГКТ
**Хведар Галёнка**

## З ДРУКУ

### ЗНАЙШЛІ ПЕКЛА

У „Кур'еры Падляшскім" № 119 ад 21 чэрвеня 1990 г. старшыня Саюза палякаў у Літве Ян Сянкевіч даў інтэрв'ю рэдакцыйнаму журналісту Адаму Чэславу. Вось яго фрагмент:

„... oba wymienione regiony (Віленскі і Солечніцкі раёны — дапісак „Нівы") mają sukcesy w ratowaniu gospodarki. Na przykład za mleko i masło wywożone do Białorusi, dostają stamtąd benzynę. Handlować trzeba i z diabłem, byle z korzyścią. Jak reforma to reforma".

Нарэшце стала вядома, дзе знаходзіцца пекла.

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

## А ў „Купальскую ноч"

23 чэрвеня 1990 г. у Гарадку адбылося традыцыйнае ўжо Купалле, арганізаванае Беларускім аб'яднаннем студэнтаў. Купалле да гэтага часу студэнты ладзілі ў Супраслі на гасціннай дачы спадарства Латышонкаў. Аднак колькасць удзельнікаў у мінулым годзе прымусіла нас падумаць аб больш прасторным месцы на нашае свята. Гасцінна прыняў нас Гарадок, дзе ў мінулым закончылі мы адзін са сваіх рэйдаў „Бацькаўшчына". Так што Гарадок і людзей мы ведалі, а некаторыя з Гарадка яшчэ нас памяталі.

Пасля поўдня ў суботу пачалі з'язджацца ўдзельнікі і арганізатары святкавання. Месцам, дзе мы спатыкаліся, быў Гарадоцкі дом культуры імя Кастуся Каліноўскага (бадай, адзіная грамадская ўстанова на Беласточчыне, назва якой сведчыць аб беларускасці нашай зямлі). Прывітала нас ягоная гаспадыня Тамара Бурачэўская. Непадалёк ад дому культуры знаходзіцца Замкавая гара, на якой і мела адбыцца Купалле. У XV ст. тут стаяў палац Хадкевічаў. Ужо каля восьмай вечарам пачалі збірацца першыя людзі. Жыхары Гарадка, справіўшыся з гаспадарскімі абавязкамі, памаленьку накіроўваліся на Замкавую гару, якая для іх у штодзённасці — гэта месца кірмашу ў аўторак. (Скандал! На такім важным памятным месцы!) З'явіліся таксама і гандлёвыя машыны, каля якіх галодныя маглі нешта перакусіць, а змучаныя ад жары маглі ахаладзіць свае горлы пэпсі-колай і піўцом. Такое шырокае святкаванне Купалля БАС ладзіў упершыню, большасць з нас проста баялася, ці справімся з такімі новымі для нас абавязкамі.

Ну, а пасля васьмі ўсё пачалося!

Бася Кучынская прывітала ўсіх прысутных і запрасіла да вогнішча (яшчэ не распаленага), у якім згодна з традыцыяй пасярэдзіне высока красавалася кола з добрага саліднага воза. Увагу ўсіх прыцягнулі дзяўчаты з вянкамі на галовах і дзве дзяўчыны, апранутыя ў нейкую казачную вопратку, якая нагадвала лясных русалак. А дзяўчат было шмат, і трэба было выбраць адну з іх, найважнейшую на гэты вечар, — Купалінку. Кандыдаткі на Купалінку абавязаны былі выказаць знаёмасцю зёлак, купальскіх песень і шмат другіх рэчаў. Людзі выбралі нядрэнна. Купалінка — гераіня вечара і спявала прыгожа, і ведала зёлкі, а таксама мела на сабе цудоўна чароўную вопратку.

Але што ж сама Купалінка без князя Купаліча? Усе людзі і пачалі яго клікаць. І раптам на рэчцы Супраслі з'явіўся князь Купаліч са сваім блазнам (кожны быў апрануты так, як патрабавала ягонае „становішча"). Князь Купаліч доўга шукаў Купалінку, але не быў бы ён князем, каб не знайшоў. Супольна распалілі вогнішча, і пачаліся спевы пад гукі гітары нястомнай Элі Бэзюк. Калі ўсё падказвала, што купальскія гульні раскруціліся надобра і трэба было ўжо дзяўчатам пускаць вянкі (а жанчыны з Гарадка мелі вянкі самыя цудоўныя, якія давялося мне дагэтуль пабачыць) здарылася... няшчасце. Пачаў ліць дождж. Усе былі змушаны схавацца ў дом культуры, але і там яшчэ спявалі цэлую ноч.

Усё ж верым, што праз год, на Купалле, надвор'е нас не падвядзе.

Купалле ў Гарадку было першай спробай паказаць шырэйшаму грамадству старажытны наш абрад. Думаю, што такія Купаллі трэба будзе ладзіць і ў другіх месцах Беласточчыны, дзе пражываюць беларусы, асабліва ў тых гмінах ці гарадах, дзе існавалі беларускія выбарчыя камітэты.

Я.В.




*Эратычны бок Купалля вачыма і рукою Лёніка Тарасэвіча.*

## ХАТА

Хата — гэта матчын куточак. Гэта тое, з чаго мы выраслі, адкуль вы выйшлі. Куточак, у які мы заўсёды будзем вяртацца. малы кавалачак Бацькаўшчыны вакол рэчкі Нарвы. У яе прытоках нашы карані. Тут раскінуліся нашы вёскі. На жаль, ужо не ўсе. У час „szybkiego rozwoju Białostocczyzny" вада Семяноўскага вадасховішча закрыла сляды існавання вёсак Лукі, Бяндзюгі, Будаў, Рудні, Боўтрыкаў, Бахуроў, часткі Рыбакоў. „Хуткае развіццё" загубіла не толькі гэтыя вёскі, але і частку Белавежскай пушчы. Камісія Польскай акадэміі навук зрабіла рапарт, але... — нічога больш. Інвестыцыйны план застанецца планам, часткова ён ужо выкананы: вёскі затопленыя, людзі параскіданыя, лясы выразаны.

Але не пра гэта я хачу сказаць. Хачу напісаць пра хату. Месца яе там, у Новай Луцэ, дзе пабудавалася частка жыхароў затопленых вёсак. Сваё „жытло" задумалі паставіць там і мы — БАСаўцы. Ідэю падкінуў нам прыяцель і ганаровы член БАСу Юрка Латышонак.

Нас ветліва прыняў начальнік гміны Нараўка і абяцаў амаль усё. Першай часткай „усяго" была хата, якую афіцыйна прызналі нам 13.09.1989 г., калі мы ужо паабівалі шмат парогаў. Праўда, хата тая крыху трухлявая, але, як людзі кажуць, дараной хаце ў падрубы не заглядаюць. Маючы хату, мы маем вырашаную адну праблему. Другая праблема — пляц пад хату. Пакуль што ганяюць нас адусюль, бо „nie ma planu zagospodarowania zalewu Siemianówka". Інакш кажучы, хата ёсць, але хтосьці баіцца паставіць свой подпіс, каб мы маглі яе паставіць. Вадасховішча ёсць, вада ў ім ёсць, а дзе ж нашае месца ля вады?

Так было дагэтуль. Але цяпер, калі Нараўчанская гміна так праславілася выйгранымі там беларусамі выбарамі, ці ж не знойдуцца людзі, ахвотныя памагчы нам і нашай беларускай справе? І трэба гэта зрабіць хутка, пакуль сваіх хатаў не паставілі там людзі са Шлёнска.

(М.П.)



### ПАДЗЯКА

Пад канец мая ў рэдакцыі „Ніва" БАСаўцы сустрэліся са спадарамі **Уладзімірам і Валянцінай Яканюкамі** (на здымку), якія зараз пражываюць у ЗША. За іх пасрэдніцтвам БАС атрымаў матэрыяльную дапамогу ад Праваслаўнай Царквы ў Чыкага. Дапамогу мы атрымалі таксама ад нашых суродзічаў з Нью-Йорка.

Усім Вам — вялікае беларускае дзякуй!

У гэтым месцы хочам абяцаць, што выкарыстаем ахвяраваныя нам грошы дзеля развіцця беларускай культуры і студэнцкага беларускага руху ў Польшчы.

**Галоўная Рада БАС**

Фота Я. Чэрнякевіч

# Беларуская справа ў дакументах С-дРП

**23 чэрвеня 1990 г. у Беластоку адбыўся І Ваяводскі засавальніцкі з'езд Сацыял-дэмакратыі Рэчыпаспалітай Польскай (С-дРП). З'езд выбраў партыйныя ўлады і прыняў праграмныя дакументы. Нашым чытачам прадстаўляем два з іх.**

**ПАСТАНОВА**

**аб нацыянальных справах.**

Стагоддзямі на нашых землях жывуць згодна і павялічваюць свае здабыткі розныя нацыянальнасці. Гэты факт карысна вылучае Беласточчыну на фоне краіны. Нікому нельга гэтага разбураць.

Прызнаем неад'емнае права кожнай з этнічных груп на культываванне і развіццё сваіх культурных, моўных і рэлігійных традыцый, права на роўныя шанцы заспакойвання эканамічных, асветных і культурных патрэб.

У нашых радах бачым прадстаўнікоў усіх нацыянальнасцяў і веравызнанняў, якія будуць магчы без перашкод рэалізаваць сваю палітычную дзейнасць і згодна ўдзельнічаць у развіцці нашай Айчыны.

З пашанай адносімся да ўстаноў і арганізацый, якія выказваюць імкненні нацыянальных меншасцяў.

Будзем нястомна імкнуцца да супрацоўніцтва з імі. Адкідаем усялякі нацыяналізм, які вядзе да сварак і замаруджвае цывілізацыйны прагрэс рэгіёна.

**ПАСТАНОВА**

**аб справе супрацоўніцтва з Гродзенскай вобласцю БССР.**

Супрацоўніцтва Беластоцкага ваяводства і Гродзенскай вобласці прынесла ў мінулыя гады ўзаемна карысныя вынікі і наблізіла грамадскасці прыгранічных рэгіёнаў.

З'езд прызнае патрэбным значнае пашырэнне гэтага супрацоўніцтва — асабліва ў сферы бездэвізнага тавараабмену, супольных гаспадарчых дзеянняў для арганізацыі прадукцыі і тавараабмену ў раёнах, дзе знаходзяцца мясцовыя рэзервы сыравіны і людской працы. Супольная прадукцыя і тавараабарот павінны ўзбагачаць мясцовыя рынкі і ствараць новыя месцы працы. Супрацоўніцтва трэба арганізаваць на эканамічных прынцыпах, якія вынікаюць з правілаў рыначнай гаспадаркі.

З'езд прызнае таксама патрэбным працягваць культурна-асветнае супрацоўніцтва дзеля заспакойвання грамадскіх спадзяванняў жыхароў абодвух рэгіёнаў — беларусаў у Беластоцкім ваяводстве і палякаў у Гродзенскай вобласці.

## Свойскія малюнкі



Тыкоцін. Мал. У. Петрука.

## САКРАТ ЯНОВІЧ
# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

— 3 —

На нашым кантыненце ступенькі цывілізаванасці і добрага жыцця зніжаюцца зверху ўніз ад захаду на ўсход. Мы — бедакі і варвары ў параўнанні з немцамі ці шведамі, але наша пачуццё засмоктанасці і задрыпанасці прападае, калі выберамся ехаць не ў Літву або ў Эстонію, але ў т.зв. Расею. Гэтаму спрыяюць і самі тубыльцы, паўсюдна хворыя польскім комплексам. Хочаш ці не хочаш, зробяць з цябе пана. Не дадуць табе завельмі падкрэсліваць, што і ты беларус, перапыняючы тваю гаворку сваімі роспаведамі пра бабку-дзедка з палякаў. Не робяць гэтага толькі нацыянальна свядомыя і культурныя беларусы, якіх не заўсёды знойдзеш нават сярод служачых у Саюзе пісьменнікаў Беларусі. Слухаючы гэтае нізкапаклонства, пачынаем з нейкім ваўкавыйным сумам разумець чуткі пра тое, што паўмільённая (паводле перапісу насельніцтва) польская меншасць у Беларускай ССР зараз павялічылася да каля двух мільёнаў чалавек. Кажуць: хто падасца ў палякі, той пабач з савецкім грамадзянствам атрымае дадаткова пашпарт Рэчыпаспалітай Польскай... Псіхалагічна ўніверсальны механізм уцёкаў ад горшага да лепшага; у Польшчы гэтак жа тлумна шукаюць сабе нямецкіх каранёў, каб дастаць у рукі паралельны пашпарт Федэратыўнай Рэспублікі Германіі (карыстаючыся магчымым у Еўропе падвойным подданствам).

Пакуль што як бы спраўджаецца прадбачанне, выказанае амаль стагоддзе назад Раманам Дмоўскім, ідэолагам наважытнага польскага нацыяналізму: Беларусь не абароніць свайго духа, усходняя яе палова зрусее, а заходняя апалячэе. Уся яе бяда ў ейным мужыцтве, а мужык не шанаваў, не шануе і не будзе шанаваць сябе і сваю бацькаўшчыну. Навошта галадранцу годнасць?!

Прыехаў я ў Мінск з пакетам наказаў ад нашага беластоцкага дзеяцтва, каб вязаць ніткі супрацоўніцтва. Мае спробы ўбіцца на аўдыенцыю хаця б да сякога-такога начальства заканчваліся канфузам, што асабіста мяне не надта і здзіўляла (ёсць жа вопыт з папярэдніх гадоў, і не маладзенькі я ж). Мінскія ці гарадзенскія варацілы адзін аднаго вартыя, у іхным рэагаванні нешта з каланіяльнай адміністрацыі. Ім у галаве не інтарэсы нацыі, якая корміць хлебам іх, але, „упаси, Господь!", каб не падпасці ў нечым пад гнеў метраполіі. Накіраваўся я тады ў Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне", —да Зянона Пазьняка. У паслясакральны будынак, званы „чырвоным касцёлам", што поблізу Дома ўраду БССР. А там сумятня, бы ў штаб-кватэры, і, пэўна, не было б мне доступу і туды, калі б не выпадковая дапамога знаёмага мастака Міколы Купавы (дэпутат Грушавы па-славянску забыўся, што паабяцаў мне быць пасрэднікам).

Пазьняк, унук вядомага да вайны заходнебеларускага палітыка, інтэлігент сама меней у трэцім пакаленні, прымае мяне з рэдкай тут натуральнасцю. І хоць бачу яго ўпершыню, гутарка з ім адбываецца лёгка, без стаханачальніцкага рытуалу, і канкрэтна. Ён — не пашпартны беларус, не савецкі ўсёнаплявач. Справа, з якою заявіўся я да яго, і якую, нарэшце, хоць адзін ён у Беларускай ССР выслухае мяне з прыхільным разуменнем, можна напачатак фармуляваць так: у новай эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў цяперашняй Польшчы пагражае Беластоцкаму краю цалкавітая гаспадарчая, а затым і нацыянальна-беларуская катастрофа, фінансавы рахунак зніштожыць нам рэшту гаспадарак, наш этнічны арэал пераўтворыцца ў безвясковыя прасторы палёў і лясоў.

(Працяг будзе)

# СМАГА

Дзень стаяў вельмі гарачы. Я і інж. Б.Ф. Рудкоўскін ледзь валаклі ногі. Вусны нашы здранцвелі ад смагі. Мы вярталіся са старога гравійнага кар'ера, што размясціўся на ўсходняй ускраіне Белавежскай пальны. Там інжынер абмераў вялікі валун, каб унесці яго ў спісак помнікаў прыроды.

— Ведаеш, Пятрусь, — прахрыпеў у нейкі момант Б. Рудкоўскін, — найгоршая смерць — гэта смерць з-за недахопу вады. Арганізм твой гарыць тады агнём, пячэ...

— Зараз дойдзем да крамы, купім некалькі бутэлек напітку, — пачаў я суцяшаць інжынера.

— Не, ты мяне не зразумеў, — супакоіў Рудкоўскін, — я сёння не думаю паміраць ад смагі. Успомніўся мне толькі адзін эпізод з вайны. Уяві сабе, Пятрусь, спякотныя дні на бязводным украінскім стэпе. Якія мукі мусіць пераносіць чалавек, калі адзіная крыніца ў ваколіцы знаходзіцца пад бесперапынным абстрэлам. Не маглі напіцца ні людзі з нашага атрада, ні з варожага. Сітуацыя здавалася бязвыхаднай. Дык, чалавек прыперты да сцяны, пачынае бараніцца. Камандзіры нашай тапаграфічнай разведкі рашылі наладзіць перагаворы з ворагам наконт супольнага доступу да крыніцы. Трое найбольш смелых салдат узялі белы сцяжок і накіраваліся ў бок варожых пазіцый. Усе мы трывалі ў напружанні. Застрэляць іх ці не? Перастрэлка спынілася. На спатканне нашым парламенцёрам выйшлі без зброі тры немцы. Гутарка была кароткая: „Вы салдаты і мы салдаты. Церпім аднолькава без вады. Давайце і вы, і мы будзем браць ваду без забівання адзін другога". Дагавор быў заключаны, і ўсе мы пачалі карыстацца крыніцай.

Рудкоўскін задумаўся. Выразна было відаць, што гэты эпізод добра ўрэзаўся яму ў памяць. Неўзабаве сядзелі мы ўжо перад крамай і раскашаваліся ліманадам.

Цяпер, калі мяне мучыць смага, міжвольна насоўваецца думка пра Рудкоўскіна, украінскі стэп і крыніцу ў ім.

**Пётр Байко**

# Аб згуртаванні беларусістаў

**19 чэрвеня на міжнароднай скарынаўскай канферэнцыі ў Варшаве быў створаны арганізацыйны камітэт Міжнароднага згуртавання беларусістаў. Ягоны склад „Ніва“ падала да ведама два тыдні таму. Сёння прапануем увазе чытачоў выказванні сяброў аргкамітэта наконт намераў і спадзяванняў, што тычацца будучыні Згуртавання. З увагі на сціпласць месца ў газеце, разгорнутыя выказванні падаем у значным скарачэнні.**

**Адам Мальдзіс (Мінск):**

Ідэя міжнароднага згуртавання беларусістаў даўно насілася ў паветры, але яшчэ гадоў пяць таму ажыццявіць яе было немагчыма... Мы ўдзячныя польскім вучоным-беларусістам, якія арганізавалі скарынаўскую канферэнцыю і якія, фактычна, з'яўляюцца ініцыятарамі Згуртавання. Але, безумоўна, мы таксама разумеем, што цэнтрам гэтага згуртавання павінен быць Мінск. Устаноўчы з'езд павінен адбыцца ў Мінску, у наступным годзе. Гэта можа адбыцца летам, калі, як спадзяюся, запрацуе першая летняя школа беларускай філалогіі, або пад канец года, калі будзем адзначаць 100-годдзе з дня нараджэння Максіма Багдановіча... Галоўная мэта Міжнароднага згуртавання беларусістаў — каардынацыя навуковай дзейнасці беларусістаў у свеце, стварэнне банка інфармацыі па гісторыі беларускай культуры. Каб не дубляваць сябе ў навуковай працы, як гэта часта яшчэ здараецца. Другая мэта — развіццё беларусазнаўства як такога. Выяўленне архіўных матэрыялаў па гісторыі Беларусі, якія знаходзяцца па-за яе межамі. Выданне помнікаў нашай культурнай спадчыны. Справа спонсарства Згуртавання — гэта, у першую чаргу, справа нашай дзяржавы, нашага ўрада. Я аптымістычна гляджу на справу стварэння навукова-асветнага цэнтра беларускай культуры імя Ф. Скарыны. Калі створыцца такая ўстанова, яна, несумненна, будзе атрымліваць асігнаванні ад дзяржавы... Але мы разлічваем таксама і на замежнае спонсарства.

**Аляксандр Баршчэўскі (Варшава):**

Мы выразна спазніліся са стварэннем Згуртавання. Месяцаў некалькі назад сваю асацыяцыю стварылі ўкраіністы. Яны адразу прынялі статут і праграму асацыяцыі. На жаль, так яно не сталася ў нашым выпадку. Мы намагаліся падрыхтаваць праекты статута і праграмы і дзеля гэтага скантакталіся з Мінскам, бо вядома, што сядзіба Згуртавання павінна знаходзіцца там. На маё здзіўленне, савецкія нашыя сябры замест праектау статута і праграмы прывезлі з сабою праект пісьма-просьбы да савецкага беларускага ўрада, у якім ад імя ўдзельнікаў канферэнцыі чалабітна просіцца дазволу стварыць згуртаванне беларусістаў. Пытанне тут пастаўлена як бы на галаве... Вынікае з гэтага, што Згуртаванне мае быць яшчэ адной агендай савецкага ўрада. Я лічу, што яно павінна мець незалежны, апалітычны характар супольнасці вучоных-беларусістаў з усяго свету... У гэтым жа пісьме выказваецца думка, каб далучыць МЗБ да таварыства „Бацькаўшчына“, што зараз ствараецца на Беларусі для лучнасці з суайчыннікамі за мяжою. Адно з другім не надта ладзіцца, паколькі МЗБ — гэта арганізацыя, якая прагрaмна павінна аб'ядноўваць беларусістаў усіх нацыянальнасцяў — і немцаў, і англічан, і амерыканцаў, а не толькі вучоных беларускага паходжання... Перспектыва Згуртавання, як лічу, добрая, хоць справа зацягнецца яшчэ прынамсі на год, а магчыма, і на даўжэй... І будзе яна вырашацца, як адчуваю, людзьмі, што непасрэдна не звязаны з навуковай працаю... Савецкі беларускі ўрад павінен зразумець той просты факт, што чым больш будзе беларусістаў на свеце (у тым ліку і сяброў МЗБ), тым большая будзе карысць для Беларусі, для яе славы. А гэтак будзе тады, калі ў структуры Згуртавання, у яго праграме будзе як найменш палітычных момантаў. У іншым выпадку арганізацыя зачахне, людзі не падключацца да яе... Склад сяброў МЗБ павінен быць як найболей плюралістычны, вольны ад палітычных момантаў, я б сказаў — універсальны...

**Леў Шакун (Мінск):**

Тое, што адбылося ў Варшаве, павінна было адбыцца намнога раней, і то на тэрыторыі Беларусі... Што казаць, ініцыятыву польскага асяроддзя беларусістаў мы ў Беларусі ўспрынялі з энтузіязмам. Гэта, у пэўнай ступені, заканамерна. Бо тут беларусістыка развіваецца вельмі плённа... Мы, як лічу, не павінны палохацца ці бянтэжыцца ад таго, што аргкамітэт Згуртавання ўзнік тут, у Варшаве... Калі мы абмяркоўвалі пытанне аб статуце, то прыйшлі да высновы, што Згуртаванне павінна быць арганізацыяй самастойнай навуковай асацыяцыяй, незалежнай ад палітычных фактараў, у тым ліку і ад таварыства „Бацькаўшчына“, якое па-сутнасці не будзе навуковай установай, а установай, прызначанай для вядзення шырэйшай работы з беларусамі на свеце... Так, пагаджаюся з вамі, урад Беларусі павінен падтрымаць Згуртаванне матэрыяльна...

Запісалі
**Юрка Ляшчынскі
і Ян Максімюк**

# ЮРКОЎСКІ-ПАН ПУШЧЫ

Васік стаў браканьерам! Занадта многа бачыць, замнога ходзіць па лесе. Аднолькава небяспечны і Васікаў сябар, якому раней здавалася, што Юркоўскі — гэта добры „наш хлопец“, знакаміты ляснічы, справядлівы чалавек і кампан да задушэўных размоў і чаркі.

— Такі ён добры, а калі нешта не так — пішы прапала! Не купіш у „пана пушчы“ ні сука, ні галінкі ветралому. Падляснічы — сэнсоўны чалавек, а гэты... Каб ано яго толькі паілі. У В. усё толькі мок і мок у тых С. У нас таксама бываў, але ніколі, каб мы што паставілі, бо і няма з чаго. А пояць яго тыя, у каго самагонка. Бо каб цяпер паіць каго штодзённа купнай гарэлкай, то пойдзеш з торбамі.

— Ці доўга ён ляснічы? Адразу, як з арміі прыйшоў. Цяпер яму трыццаць адзін.

— Шкада толькі яго бабы. Добрая яго Тамарка, дальбог. Усе яе шкадуюць. І яго шкада. Змарнуецца. Як яго пашкадаваць? Трэба, ведаеш, каб змяніў месца працы. Бо тут усюды то кум, то сват, то калега, то дзядзька, то яшчэ хто... І тут ён — герой!

— Што ні гавары, ён добры хлопец, але там, дзе п'юць і дзе даюць піць. Няма на яго моцных; няма чаго яго зачапаць.

— Дзядзька яго велька шышка ў Дырэкцыі лясоў, няма на Юркоўскага моцных. І калісь так бывала, што ляснічы быў богам у лесе і дзяліў лес, як хацеў...

— Але ўжо не тыя часы, каб на такіх сілы не было! Лес — гэта багацце! І не на адно пакаленне, каб якісь дзяцюк, ледзь адросшы ад зямлі, даваў яму каюк.

— Трэба, каб хтосьці гэтым заняўся. Свае яго не навучылі, хай чужыя навучаць! Культуры, можа, навучылі б... Знаў бы, што то людзі, бо ён ніколі з імі не лічыцца. Калісь так было: кепскі ляснічы — то перамяшчаюць яго ў іншае месца.

— Так і было: „перамяшчаюць“. А выкінуць такога! Бацька мае гаспадарку, няхай Юркоўскі спрабуе і такога хлеба! Трактар мае, таксоўку, багажоўку якуюсь. Ніхто нікому багацця не шкадуе, але каб яно справядліва было зароблена.

— А што людзі скажуць на яго? Ніц не скажуць, бо ўсе людзі ў яго ў руках. Ён дрэвы прадае, усе купляюць, бо і будуюцца, і ў печах паляць. Хто што можа на яго сказаць? Я сама падпісалася на яго як кандыдата на раднага. Але ж гэта чалавек сапсаваны зусім, нават для жонкі. Толькі плача яна, пакутніца; як яна можа вытрываць?! А людзі скажуць на яго? Баяцца, бо... не пусціць у лес, ён жа як яго ўласны. Дзядзька яго ў адміністрацыі „Лясоў паньствовых“, то ж важны пан.

— А ў бацькі нармальны ўжо тартак на панадворку. А ў яго — ідзі, пабач, што ёсць: і лісаў, і рогаў, і ўсяго на свеце. Палюе, мае правы...

— Стаялі куры ў Анцуткі ў курніку на панадворку. То яны, гэтыя паляўнічыя, бабах па курыцах! Пабілі праз шыбу!

— А ці ж за сваё пакупляў машыны, трактар? Усё за хабары. Едуць сюды і з Падляшша, і з усюль. Пан пушчы, проста.

— Васік колькі разоў за ім ездзіў, каб купіць дрэва. Едзе роварам, шукае — і дахаты, і ў краму, і па лесе. Але дзе ж яго знойдзеш? Пасля хтосьці Васіку падказаў, што Юркоўскі — у С. Прыехаў Васік з Толікам дахаты, маўчаць. Пытаю іх, чаго так глядзяць, быццам іх хто пабіў. Ці не знайшлі Юркоўскага? „Не, знайшлі, але яшчэ горш.“ Што горш? Думаю: можа, пры чужой бабе знайшлі, бо ён гэтак любіць. Знайшлі Юркоўскага каля крамы ў С., п'янага ў трупа, з трактарам. Кажуць ім людзі: „Адвядзіце трактар з ляснічым на панадворак Юркоўскіх. Шкада чалавека, яшчэ заб'ецца“. Вязуць яго хлопцы, а ён як не сарвецца: „Вон з майго трактара, злодзей! Лес красці надумаў! А ты, клусоўнік, халера цябе носіць па пушчы, прыкідваешся толькі, што мераеш ваду ў даследчых калодзежыках, а б'еш дзічыну! Вон!“ Васік так знерваваўся, што хацеў ударыць ляснічага, але чаго біць п'янага! Вылезлі з трактара. Добра, што Юркоўскі не даў рады ехаць далей сам, а то разбіўся б.

— Купіў чалавек дрэва легальна, заплаціў, а такі п'янюга са словам не лічыцца, абражае людзей!

— Васік мерае ўзровень вады ў калодзежыках для Інстытута даследаў лясніцтва ў Варшаве. Рабіў гэта і ляснічы. Грошы браў, ды не мераў, а да таго запусціў калодзежыкі і не пасылаў вынікі памераў. Дык і яго частку пушчы перадалі Васіку. Знайшоў хлопец непадалёк ад падлеснічоўкі забітага козліка са зрэзанымі рожкамі. Зайшоў сказаць аб гэтым ляснічаму. Дадаў: „Калі хто страляе, няхай хоць закапае падла“. Пэўна, той, што страляў, яшчэ не паспеў мяса забраць. Вось і сам

Ён ні п'яны — то яго ніхто не зачэпіць, ці ўбачыць, што робіць — ніхто нікому нічога не скажа, бо тут ён велькі пан. А калі б знайшоўся паміж чужымі людзьмі, то хадзіў бы паціхеньку, культурна. А то прыйдзе ў краму — дубальтоўка праз плячо. Людзі звяртаюць увагу: „Ты не корпайся пры ружжы, тут жа людзі, яшчэ каго падстрэліш“. А ён жартуе: „Маю шрот, калі хто будзе мне перашкаджаць, падстрэлю, як зайца!“ А так страляе толькі безбаронных светларогіх ранніх аленікаў.

— А дрэва на яго панадворку, вой! Не раз бачыла, як везлі, калі ягады збірала. Бацька што, можа купляў?

— Шкада, малады чалавек, марнуе сваё здароўе. А маці плача. Ну, яму між сваімі людзьмі добра. Яго тут, быццам, і шануюць. Але якая гэта пашана — паіць чалавека і да смерці яго даводзіць? З маладых год на вантробу хварэе, а цяпер якая яна ў яго? Калі, як не цяпер, жыццё яму не ратаваць? Хто яму паможа? Жонка не мае голасу. Добрае дзіця, сіроцкае, такая мілая, і тых дзетак гадуе... Нічога ж яна на яго не скажа! Гаварыла, дык ён казаў: „Я што хачу, тое і раблю. А не — то да іншае бабы пайду...“ Ну, гэта іхняя справа. Але шкада, хай бы гадаваў сваіх дзетак. А то здароўе і жыццё прап'е. Малады такі!

— Каб дзесь яго ў іншыя людзі, то, можа, быў бы інакшы. Можа, не піў бы столькі, не быў бы такі нахабны. Вядома, на сваім сметніку і курыца гаспадыня.

— Трэба ратунку якогась. Для яго ўласнага дабра. Нам што? Толькі хочам, каб нас урáднікі па-чалавечы трактавалі. Тут павінен стаяць на пасадзе чалавек адказны, за якім не трэба бегаць, шукаць, а потым знаходзіць п'янага. Якія могуць быць рашэнні непрытомнага чалавека? Згіне ён, калі нічога не зробіць. А павінен жа дбаць аб працу, цяпер беспрацоўных многа.

— А да рады яго выбралі! Я сама дала свой голас. Думала: чалавек наш, у радзе патрэбны. А ён — за водку...

— Не трэба было галасаваць.

— Але на тое ляснічы і ёсць, каб пушчу пільнаваў. А гэты пажар на ўрочышчы, то што? Кралі людзі, рэзалі, а пасля пні падпалілі. Згасілі, а праз два дні зноў загарэлася. Найбольш тудэма лесу цягнулі, за Малюшкаю. І ніхто не бачыць, не чуе. А там найхарошчыя ягады калісь былі.

Запісаў **Лукаш Баравіцкі**

# МУЗЫКАНТЫ СЯРОД РУІН

Роўна год назад, блукаючы па самым оруэлаўскім з усіх гарадоў на свеце, па Мінску, я сустрэў Сяржука, Фелікса і Славу — палову рок-гурта „Уліс". Пра іх я чуў раней, ад Вітаўта Мартыненкі — першага міфолага беларускай рок-музыкі. Мы пілі каву, гутарылі аб музыцы і аб навакольных пейзажах. Фелікс чытаў свае тэксты з пакрэмзаных лісткоў паперы — асколкі слоўнай руды з залежаў нежаданай мовы. Хлопцы былі музыкантамі, стваралі музыку для свайго альбома, мінскае неба патыхала мёртвай спякотай або адрыгвала скіслым дажджом. Усё іншае было немагчымае.

*ФЕЛІКС: „Уліс" — гэта назва таго, што існуе ўжо доўгі час, і сутнасць яго не змяняецца. Гэта тое, што прайшло праз вякі, праз многія народы. Гэта дух, прысутны ў нашым гурце, Адысей-Уліс, ён уваходзіць на сцэну і прабывае разам з намі. Ён — гэта мы.*

Увосень хлопцы з'ездзілі ў Ольштын, запісалі дзевяць нумароў, якія склалі альбом „Чужаніца". Адна студыйная стужка з запісам засталася ў Беластоку. У Беластоку я пазнаёміўся з другой паловай „Уліса" — Валерам, Андрэем і Кірылам. І з „Чужаніцай".

*СЯРЖУК: „Уліс" — гэта асноўная справа ў маім жыцці. Гэта тое, у што я імкнуся ўкладваць сваю моц, сваю душу. „Уліс" — гэта маё ўсведамленне сусветнай культуры ў культуры беларускай.*

Стужку час ад часу круцілі ў беларускай радыёперадачы, БАСаўцы хатнім спосабам наладзілі выпуск касет з „Чужаніцай". На студэнцкіх сустрэчах пасля абавязковага рэпертуару Сокалава-Воюша і Камоцкага раптам загучалі словы і музыка „Уліса". Хаця імітаваць гітару Славы і голас Андрэя наўрад ці каму ўдасца, то ўсё ж такі трэба прызнацца, што Эля Б. і Алінка Б. дасягнулі нечага накшталт выканаўчага поспеху. Абедзве яны, як здаецца, з Бельска.

*СЛАВА: „Уліс" — гэта вечны вандроўнік, сімвал спазнання свету і сябе ў гэтым свеце. „Уліс" — гэта маё жыццё.*

Выступу „Уліса" ў Беластоку чакалі з нескрываным напружаннем і хваляваннем. Хваляваннем за рэакцыю публікі, якой упершыню даводзілася слухаць беларускі рок. І хваляваннем за той сатканы з самых лепшых спадзяванняў імідж гурта, які павінен быў замацавацца на сцэне. А калі не? Калі выпеставаная ў студыі інструментальная празрыстасць аберняцца ў электрычны звяг?

*ВАЛЕРА: „Уліс" — гэта цяжкая вандроўка па моры жыцця.*

Недзе гадзіны чатыры круціўся ўвесь гэты балаган, што называўся „І Фестывалем беларускай песні", пакуль не выдыхаўся. Змяркалася, калі са сцэны драпежным рок-энд-ролам сыпнула „Мроя". „Мроя" была нечаканасцю, паколькі ніхто з Беласточчыны раней не чуў, што яны іграюць. „Мроя" была прыемнай нечаканасцю. Гурт, што трэба. „Уліс" пачаў з „Уліса" Джэймса Джойса. Фелікс зачытаў кавалак тэксту, калі хлопцы падключаліся да апаратуры. Міні-выступ адкрыла „Краіна ў кратах". Напружанне адступілася з першага нумару. Усё ідзе, як не трэба лепш. Пры песенцы пра Міхаэля Руста грамада самых заўзятых рок-фанаў абступіла сцэну. Песню пра імперыю, якая знікае, яны спявалі разам з Андрэем. І потым хіт „Уліса" — „Пляц Францыска". Чыста (празрыста!) гучала гітара Славы, выразна адцененая зладжанай працай перкусістаў Кірыла і Валеры. І Сяржук утрая расцягнуў сваю басавую партыю („адзіная мая сольная партыя ў цэлым альбоме, на жаль"). Хлопцы хацелі гэтым закончыць, але аглушальны віск эратычна-вільготных дзяўчат запатрабаваў „Чужаніцу". Таго, што ўключае, паліць, глядзіць і чытае тое несавецкае. І быў „Чужаніца". Сам сабе брат.



*КІРЫЛ: „Уліс" — гэта мара.*

Беларускі рок стаў магчымым дзякуючы беларускаму адраджэнню. І сам ён — адзін з носьбітаў таго адраджэння. Тут, сапраўды, існуе зваротная сувязь.

Музыка „Уліса" — духоўны пошук, падарожжа ў сваю існасць, беларускую. Спараджае яе крах кашмарнага свету, у якім на абломках імперыі звягае шакал і скігоча плюгавая птушка цемры. Хлопцы з „Уліса" — музыканты сярод руін.

**Ян Максімюк**

---

ды вышэйшага парадку, як гэта было калісьці?! Ніколі! Я веру ў духоўную творчасць беларуса. Ён сваю мову агладзіць і лік слоў звялічыць. Ад змены такой веры маёй я буду бараніцца як змога. Сумлівасць і маладушнасць — набок!...

*7 - XI.* Вось я не такі хварлівы, як думаў... Я ня ўмру яшчэ. Хоць, узяўшы на розум, ня ведаю, ці гэта будзе лепей. Мо' быў бы шчаслівейшым на тым свеце. Павіннасць духоўных цяжкая. Слабасць мая аграмадная, лянівасць дужая. Мыслі гэтыя трывожаць мяне... Пакіну іх. Пацеха мая адзіная — гэта Бог. Мэта ясная, а помач ад Яго ласкі — пэўная.

*8 - XI.* Ня рань свайго трывожнага сэрца: ня бойся нікога.

Усё прамінае — усё, апроч Бога...

Еду ізноў заграніцу.

*Закапанае — 29-XI-1913.* Стан здароўя, паводле слоў дохтара, слабы. Але пэўна мыліцца эскуляп. Я чую ў сабе дужа-многа сілы жыццёвай.

Трохі марозіць. Учора быў снег. Санная дарога пышная. У ночы зоркі іскрацца і паляцца на небе пад музыку ручайкоў горных і шум хвойкаў. „Гасцей" многа незнаёмых. Кожнага псыхолёгія цікаўная. Трэба спазнаць.

*2 - XII.* Атрымаў ліст аднэй пабожнай законніцы. Намаўляе мяне да жыцця законнага. Усё мяне кліча да жыцця ахвярнага і цярплівага. Што ж! — Я на ўсё гатоў. Толькі цяпер я — чэрап разбіты, нікому нявартвы. Яшчэ ня прыйшла гадзіна мая, а мо' і зусім ня прыйдзе.

*3 - XII.* Дзень прайшоў бяз творчасці духовай: мыслі дрэмяць, сэрца зімнае...

*Жнівень - 1914. Разгарэлася вайна вялізарная...* Мой Божа! Гэта рэч так сумная і так праціўная маёй натуры, што лепей аб ёй зусім ня пісаць. Мусіць адбыцца якісь пераварот у свеце. А кожны святовы пераварот каштуе мільёны людзей. Як гэта сумна, што чалавек, істота разумная, ня можа змагчы найвялікшага зла на свеце — вайны. Бяссільны ён тут, а лепей скажам *подлы.* Жыццё людскае ёсць найцаннейшым дарам божым. Да жыцця, як пэўнай формы быту — кіруюцца ўсе творы. Мусім шанаваць жыццё нават малога жучка, бо права да яго згубы мы ня маем. Адабраць жыццё чалавеку гэта праступак, каторы толькі Бог помсціць можа дастойна. Вайна ёсць згуртаваннем усіх праступкаў. Яна ёсць ганьбай чалавечнасці. Яна матка ўсялякай нядолі. Няма нічога на свеце так паніжаючага чалавека, як вайна. Роўнай пагібелі, што нясе яна людскасці, не знаходзім у звяроў. Бог дапушчае такое зло на свет, каб зніжыць пыху людскую. Ня Бог прычына вайны — злосць людская, завісць і пыха. Што Бог дазволіў, каб кроў лілася, — ня дзіва. Вольнай волі чалавека Ён не касуе. А між людской злосці і ненавісці патрапіць аказаць сваю найвышэйшую ўладу і справядлівасць...

*5 - V - 1915.* — *„Ой цяжка, цяжка: не сярмяжка цяжка, але доля цяжка".* Канчаю ўжо час свайго дыяканату трыгадовага, а сумнасць цяжкая залягае трывожнае сэрца маё. Сумнасць тая, што родзіць цярпенне — глыбокае, крыжавое. Гнаны зманнасцяй свету і людской спадзеі, я думаў найсці пацеху і шчасце ў рэлігіі і аддаўся Богу без раздзелу. Я чуў іскру божую ў сабе да засеву на ніве людской — праўды божай. Але баяўся чапіць гэты скарб свой, ведаючы, што калі аддацца ксяндзоўству, то трэба гэта зрабіць усёй істотай сваёй: з крывавай ахвярай самога сябе. Верыў я, што гэта мог бы зрабіць, бо ласка Божая для мяне была падана, гатова. І быў момант, калі я гэта зрабіў, залажыўшы сабе вечны ідэал — враз цярпенне.

Мой Божа, ці я ўстаю цвёрдай ступнёй на выбранай дарозе? Ах, ніколі не адбяры ад мяне гэтай надзеі, бо згіну! Дай мне цярпенне, хоць бы як мора глыбокае, але і сілу дай знясці і, вытрываць. *Ласка Твая прымус нада мной учыніла* — не пакідай мяне! Я сын таго народу, што найбольш цярпеў, цярпіць і цярпець будзе. Цярпення хачу, але такога, каторае з мяне зрабіла б чалавека стальнога характару. Народ наш вялікі, а лічыцца найменшым. Няхай і я — сын яго — такім буду. Народ наш нешчаслівы, бяз сучаснасці пэўнай, бяз будучыні яснай, але глыбокі ў жыцці сваім ціхім, скрытым, спеўным. Няхай і з маім так будзе жыццём: глыбокасць духа, шырокасць сэрца, агонь мовы і песня, песня тайнічная, бязмерна сумная, хоць *вечнай спадзеяй жывая.*

*6 - V.* Няма большага суму, як абмануцца ў сіле сваёй. Смутак такі, калі яго не ўмяркуе моц вышэйшая, даходзіць да роспачы. Сумна кончыцца час майго дыяканату, пачынаецца прэсбітэрат маладога ідэалісты. Прызнаюся — чуццё перажытае ў мінуты, калі даведаўся я, што зара буду ксяндзом, было так спакойнае і патольнае, што сапраўды болей яго цаню, чым усё дазнанае ў часах апошніх. Аджыла ў мяне вера ў жывучасць таго голасу, каторы звінеў калісьці ў вушах маіх: „Ідзі за мной!" І болей яшчэ: ня чуў я голасу адпору натуральнага, што мяне хватаў і адцягваў ад ідэі Хрыстовага свяшчэнства, манячы да свету, каторы прымаў мяне і прымае дагэтуль з шырокім усціскам. Але дарэмна! — Яму ня даўся і ня дамся!

*7 - V.* Трэці дзень рэкалекцыяў. Божа мой, як малым выдаўся я прад тым, чаго вымагае з мяне наш Касцёл святы. Што ж я праз гэтых колькі дзён зраблю, каб стаць на вышыню свайго пазнання? Духа трэба, духа Божага. Ён у адзін момант здольны перарадзіць чалавека, абы толькі той прыгатаваў раллю чыстую. Божа, Божа! Я гатоў на ўсё, бо змерыў цэлую глыбіню сваёй немачы... Бедны я, бедны... Дыяканат мой канчаецца.

*(Працяг будзе)*

Падрыхтаваў **Юры Трачук**

**P.S.** З дзённіка паэта вынікае, што ўпершыню на лячэнне ў Закапанэ Казімір Сваяк прыехаў 25 лістапада 1912 г. Па дарозе наведаў ён Варшаву, Чэнстахову і Кракаў. Што датычыць мовы дзённіка, дык у асноўным прытрымліваўся я тут арыгіналу (у арыгінале дзённік надрукаваны беларускай лацінкай) з мінімальным умешваннем у тэкст, набліжаючы яго да сучаснай літаратурнай нормы.

**Ю.Т.**

 


# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




*Агнешка Кучко з Махнатага. Фота Я. Чэрнякевіч.*

Уладзімір Разумневіч

## Самы вялікі сакрэт

Наташа з мамай то таямніча пра нешта гавораць, то, зачыніўшыся ў спальні, смяюцца.

Чую, як яны шэпчуцца.

— Глядзі ж, да раніцы нічога не кажы тату, — строга наказвала мама. — Ён не павінен ведаць. Гэта — сакрэт.

— Што я — маленькая! — абураецца Наташа.

Яна выбягае са спальні і хітравата кажа:

— Пра наш сакрэт, тата, ты ніколі-ніколі не даведаешся. Ён у мяне вось тут сядзіць, — стукае пальчыкам па галаве.

Потым нечакана пытае:

— Тата, а калі ты нарадзіўся?

— Даўно. Якраз трыццаць чатыры гады назад.

— А мама кажа, што ты заўтра нарадзіўся, ха-ха!

— Чаго ты смяешся? — пытаюся.

— Таму што мне смешна ад сакрэту... тата, а колькі часу на тваім гадзінніку?

— На маім? Без пяці дванаццаць. А што? Надышоў час раскрываць сакрэт?

— Ды не. Мама кажа, што час надыдзе толькі заўтра. Сён-

(Працяг на стар. 10)

ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Авяр'ян Дзеружынскі

## ДОЖДЖЫКІ

### СЛЯПЫ

Дождж сляпы,
Дождж сляпы
Шапаціць
Ля капы
І на сена
Пырскі сее.

Сонца ззяе,
Ярка ззяе.
Гэта дождж
Не заўважае.
Ён сляпы,
Зусім сляпы,
Лупіць, б'е
Вакол капы.

### ПРАЛІЎНЫ

Дождж ударыў
Праліўны.
— Но, мой конік
Вараны!

Конь бярозавы
Імчыць,
Гром грукоча
І вурчыць.
З неба — іскры
І агонь.
Пад паветку
Скочыў конь.
Мы схаваліся
З канём,
Пачакаем,
Адпачнём.

Сонца выглянула
З хмары,
Над зямлёй
Клубіцца пара.
Дождж прыціх...
Я на кані
Еду, —
Вецер, дагані!

(Працяг на стар. 10)

Алесь Пальчэўскі

## Неспакойны госць

Праз агародчыкі між кустоў бэзу і чаромхі пракладвалі газаправод у новыя дамы.

Экскаватар угрызаўся ў грунт, набіраў поўны коўш і асцярожна адносіў у бок ад канавы. Там разяўляў пашчу і са скрогатам высыпаў яго. Нават страсянецца часам, быццам штосьці не даспадобы трапіла на зубы.

Дзесятак хлопчыкаў стаялі побач, назіралі за работай і спрачаліся, колькі чалавек трэба на гэту работу, што робіць адна машына. Хто казаў дзесяць, хто — пятнаццаць, а Генік, старэйшы між іх, стаяў на тым, што дваццаць.

І раптам вясёлы гоман сціх: з жалезнай пашчы на зямлю паляцела нешта шэрае, адно за адным.

— Бомбы! — крыкнуў хтосьці з дзяцей, і ў момант нікога з іх не засталося каля экскаватара.

Адна з тых „бомб“ тут жа заварушылася, абтрэсла з сябе пясок і павяла пысачкай у бакі.

— Гэта вожыкі! — гукнуў зверху праз акенца кабіны машыніст.

Дзеці пачулі знаёмы голас і з крыкам кінуліся назад. Вожык не спалохаўся людскіх галасоў, ён хуценька падбег да вожычых і тыцнуўся ў яе пысачку.

Упэўніўшыся, што сяброўка нежывая, вожык трушком падаўся да кустоў хавацца. Дзеці перагарадзілі яму дарогу. Тады вожык скруціўся ў клубок і сціснуўся. Хлопчыкі акружылі яго і далі знак адзін аднаму маўчаць.

Вожык паляжаў трошкі і пачаў выпроствацца, але як убачыў навокал дзяцей, зноў скруціўся ў клубок.

Генік, мой сусед, зняў з галавы шапку, кіёчкам угрунуў у яе вожыка і памчаў дахаты.

— Мама, глядзі, што я прынёс! — радасна гукнуў ён.

Маці зірнула ў шапку і закрычала:

— Навошта табе калючка гэта?

— Мамачка, нам казалі ў школе, што вожыкі добра ловяць мышэй.

— А дзе тыя ў нас мышы? Ты бачыў іх калі? Гэта ж не ранейшая кватэра ў драўляным доме.

Генік нічога не адказаў. Толькі вачамі прасіў: „Мама, няхай будзе“.

Маці моўчкі пайшла на кухню, мабыць, успомніла, што на пліце штосьці магло збегчы.

Генік зайшоў у пакой, выпусціў на падлогу вожыка і, каб маці не аднесла яго назад у кусты, увесь дзень прабываў дома. Сябры самі прыходзілі да яго пагуляць.

Назаўтра раненька Генік пазваніў мне. Я адчыніў дзверы. Ён стаяў заплаканы.

— Што сталася, Генік? Заходзь у пакой, расказвай, — запрасіў я.

— Дзядзечка, вазьміце майго вожыка. Мама кажа: непатрэбен ёй такі неспакойны госць. Ён усю ноч не даваў спаць. А куды я дзену? Экскаватар разбурыў яго гняздо і вожычыху загубіў. Ён цяпер адзін астаўся.

І столькі жалю было ў хлапчуковым голасе, што я адразу ж пайшоў да Геніка і забраў звярка.

Перанесены на новую кватэру, вожык не разгубіўся, абабег [illegible], агледзеў і зашыўся ў куток пад шафу. Там і праспаў увесь дзень.

А ўночы, як толькі я выключыў святло, пачалося: быццам апантаны, забегаў ён з пакоя ў пакой. І кавалачкі хлеба, і мяса ляжалі каля шафы, і малако ў талерцы стаяла — еш толькі, — а ён не знаходзіў спакою. То крэслам забразджыць, то сваімі ножкамі загрукае па падлозе. Ды яшчэ як загрукае! А то проста спыніцца сярод хаты і: „Чуф, чуф, чуф!“ Нібыта кліча каго.



(Працяг на стар. 10)



 

(Працяг са стар. 9)

## НЕСПАКОЙНЫ ГОСЦЬ

Мой голас ненадоўга суцішваў вожыка. Чаму ён не мог утаймавацца? Ці то прывычка да начнога палявання не давала спакою, а можа, сваю сяброўку шукаў. Не верылася, відаць, беднаму, што не сустрэне яе больш.

Тры ночы вожык не даваў мне спакою. Сцішыцца на некалькі хвілін, быццам на перапынак, дазволіць задрамаць, каб тут жа зноў разбудзіць сваім грукам.

На чацвёрты дзень я аднёс яго ў батанічны сад. Расшпіліў там гаспадарчую сумку, палажыў на зямлю, а сам прысеў воддаль.

— Вылазь, кажу, дружа, на волю. Тут вунь якое будзе табе раздолле, не тое, што ў тым агародчыку... Ідзі шукай новую сяброўку, наладжвай новую сям'ю.

Вожык не адразу паверыў свайму шчасцю. Уткнуўшыся пыскай у зямлю, ён спадылба паглядаў на мяне чорнымі вочкамі і не кратаўся з месца. Нарэшце асцярожна ступіў пару крокаў па зялёнай траве. Але не кінуўся наўцёкі, а нейкі час павадзіў яшчэ ў бакі галавой і чуфкаў. „Няўжо зноў воля!" — мусіць, не верылася яму.

Затым, нясмела паглядаючы то на мяне, то на ажыннік, вожык падаўся да кустоў. І чым бліжэй была схованка ад людскога вока, тым жвавейшым станавіўся звярок. За які метр ад куста ён пабег ужо трушком.

Наперадзе яго сапраўды чакала воля.

(Працяг са стар. 9)

## САМЫ ВЯЛІКІ САКРЭТ

ня надыходзіць яму не дазволіла. Буду маўчаць пра сакрэт да самай раніцы. Во! А чаму ў цябе такі стары гадзіннік?

— Доўга жыве, вось і састарыўся.

— І раменьчык стары. Ён пражыў столькі ж, як і бабуля Таня?

— Раменьчык столькі не жыве. Ён хутчэй старэе. Яму столькі год, колькі і табе цяпер.

— Такі маленькі, а ўвесь у зморшчынках. Яго трэба мяняць, праўда? Я пражыву столькі, паўстолькі і яшчэ столечкі, а мяне мяняць у магазіне не трэба. А чаму ты сам гадзіннік з раменьчыкам не зменіш? Хочаш, каб мама памяняла?

— Пры чым тут мама? Не разумею цябе, Наташа. Што ты сёння ўсё пра гадзіннік гаворыш? Табе што, няма чым заняцца?

— Хітры ты, тата. Не куплю гадзіннік, бо ведаў: мама на дзень нараджэння падорыць. З бранзалецікам. Ты ведаў? Праўда, ведаў?

— Наташка! — у роспачы ўсклікнула мама. — Якая ж ты!... І пяці хвілін не вытрывала. Больш ніколі не даверу табе сакрэту.




## БЕЛАРУСКІ ПЕРШАДРУКАР

**(У 500-годдзе з дня нараджэння).**

У Італіі, у адным з найстарэйшых у свеце Падуанскім універсітэце ёсць славутая „Зала сарака". На покуці стаіць зробленая з тоўстых дошак, сёння патачаная ўжо шашалем, трыбунка-кафедра. Яна памятае, як некалі тут чытаў лекцыі Галілей. Цяпер на гэтым месцы стаіць бюст геніяльнага вучонага.

На сценах універсітэта скрозь памятныя знакі — эмблемы, гербы славутых родаў. Падуанскі універсітэт з гонарам ушаноўвае тых вялікіх, хто вучыўся альбо вучыў тут. Ды чаму не ганарыцца: адно такое імя як Капернік ці Галілей, шмат што кажа ўсяму адукаванаму чалавецтву.

На сценах універсітэта — эмблемы...

Але ў „Зале сарака" ўжо не эмблемы, а сорак вялікіх партрэтаў слаўных з найслаўнейшых. Сярод іх другі ад покуці, каля кафедры Галілея, — Францыск Скарына.

Так за тысячы кіламетраў ад Беларусі, у далёкай Італіі, ушаноўваецца памяць аб нашым першадрукару Францыску Скарыне.

Менавіта са Скарынавых рук без мала пяцьсот гадоў таму назад усходняе славянства атрымала першую друкаваную кнігу.

Каб уявіць веліч гэтай падзеі ў гісторыі нашай Радзімы, згадайма, якой была кніга даўней.

У старажытныя часы яна была зусім не падобная да нашых.

На чым толькі не пісалі людзі даўней!

Вы, пэўна чулі, што гадоў з дзесятак назад у Беларусі пры раскопках старажытнага Віцебска знайшлі запісы, зробленыя на бяросце — бярозавай кары. Даўней шмат якія надпісы высякалі на каменях, выцiскалі на гліняных плітках.

У Афрыцы, у Егіпце, людзі вельмі даўно навучыліся пісаць на папірусе.

Яшчэ ў далёкія часы, калі на паліцах рымскіх бібліятэк ляжалі папірусныя кнігі-скруткі, у Кітаі таксама была зроблена выдатная знаходка. Да гэтага часу новыя кнігі пісаліся на шоўку. Гэта абыходзілася надта дорага. Адзін шчаслівец Цай Лун, скарыстаўшы кару дрэў, старыя рыбацкія сеці і іншыя адыходы, вырабіў першую паперу. Яна адразу атрымала вялікае прызнанне.

Яшчэ задоўга да таго, як увайшла ў шырокі ўжытак папера, быў ужо друк. Але з кнігамі ён не меў нічога супольнага, бо друкавалі тады зусім іншае — тканіны.

Прыблізна каля 1450 года чалавецтва атрымала адну з найвялікшых вынаходак — кнігадрук. Адыходзіў у нябыт час, калі шмат якія народы Заходняй Еўропы толькі гаварылі на сваіх мовах, а пісаць і чытаць вымушаны былі па-латыні.

Лацінская мова яшчэ абыходзілася рукапісам: у яе было няшмат чытачоў і яшчэ меней паэтаў, якія б на ёй пісалі. Мы з гонарам сёння адзначаем, што ў ліку першых нямногіх еўрапейскіх моў, якія далучыліся да кнігадрукавання, была і наша родная мова.

Праз друкарскі подзвіг Скарыны ўсходняе славянства сягнула вышынь еўрапейскай культуры.

**Працяг будзе**

(Паводле кнігі А. Клышкі „Францыск Скарына")

*Вершы Віктара Шведа*

### ТЭЛЕФОННАЯ РАЗМОВА

А тэлефон дык звоніць, звоніць,
Працяжна так і бесталкова.
Падносіць трубку ўрэшце
Лёня —
І пачынаецца размова.

Хлопчык кагосьці інфармуе:
— Бацькі даўно ўжо на рабоце,
Бабулька наша не чуе,
А гаварыць не ўмее коцік.

### У ГАРАДСКІМ АЎТОБУСЕ

— Бяда і гора ў гэтым месце,
Аўтобус поўненькі заўсёды.
Зусім ужо няма дзе сесці,
Так многа гэтага народу.

— Чаму ж так вельмі наракаеш,
Рассеўшыся выгодна, дзетка?
— Сяджу, ды вось стаіць старая
Бабуленька з вялікай сеткай.

## ЗАГАДКІ

1.
Хто жывы чорны, а па смерці чырвоны.

2.
Хто на сабе хату носіць.

3.
Хто над намі дагары нагамі.

4.
Вісіць сіта не рукамі звіта.

Адгадкі: рак, слімак, муха, павуціна.

(Працяг са стар. 9)

### СПОРНЫ

Дождж пасыпаў
Спорны-спорны,
Гэткі шумны,
Гэткі скоры.
Набірае
Сілу ён,
Дзінь-дзінь — кроплі,
Нібы звон,
Рассыпаюцца
Вакол
На зялёны
Весні дол.

## -А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А-

Размалюй палі, азначаныя 1 — жоўтым алоўкам, 2 — аранжавым, 3 — чырвоным, 4 — фіялетавым, 5 — блакітным, 6 — зялёным, 7 — карычневым, 8 — чорным. Што выйшла?





Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok ul. Suraska 1, „Зорка".

